# ЦЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

АДРАС РЭДАКЦЫІ, САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09.

Пролетары ўсіх краін злучайцеся!

№ 1 СТУДЗЕНЬ — 1932


## ЗА ПЕРАВЫКАНАНЬНЕ ПЛЯНУ ІЛЬНОЗАГАТОВАК

АДПРАЎКА ЭКСПАРТНАГА ІЛЬНУ З БАЗЫ



# Манэўраныя нататкі

Р. МУРАШКА



Малюнкі А. Заборава

З самага ранку сеецца як на сіта дробны назольлівы дождж. Падумаў-бы, што гэта едкі вільготны туман цяжэе і цяжэе, прыліпае да зямлі, каб ня коўзалі гэтак ногі, каб ня лужыны і абрыдлае восенскае балота. Брудную дзяругаю хмар апаўзло неба—нізка, нізка спусьціліся яны, ахуталі кругавід. Адчуваньне вільготнае, стыжкае, няпрыемнае. Гэтак і цягне ў сухі пакой, дзе-б можна скінуць мокрую апранаху і аддацца цалкам спакойнаму адпачынку.

Нізка-нізка разрэзваючы хмары, кружаць самалёты, уносяць нейкі трывожны настрой, — „праціўнік“ блізка. Цераз двор саўгасу, увесь застаўлены хурманкамі, машынамі, хуткім маршам праходзяць сапёры, стралковыя разьдзелы з шанцавым інструмантам. Нясуць калючы дрот. Гэта робяць умацаваньне першае лініі абароны. Нейдзе ўперадзе ўжо разгортваюцца „баі“.

У тылу нашага саўгасу па ўзгорках цягнецца другая лінія абароны. На той момант, калі „праціўнік“ прарве першую лінію яго сустрэне другая. Работа кіпіць, дзякуючы тэмпам, якія далёка за сабою пакідаюць усялякія статутныя нормы.

Кулямётнае аддзяленьне, раскінутае на ўзгорку, мае вельмі добры сэктар абстрэлу. Аддзяленьне ўдарнае і гэтую ўдарнасьць апраўдвае праз усе дні манэўраў. На рубяжох другое абароннае лініі яно справілася з задачай выкапкі і замаскаваньня акопу за паўтары гадзіны. Усё гэта пад прыкрым восенскім дажджом, які разгружвае зямлю, каб лепш прыліпала да рыдлёвак, ботаў і шынэляў. Але можа таму яшчэ больш упартасьці ў байцоў. Камандзір аддзяленьня дакладвае камандзіру разьдзела, што ў выніку соцспаборніцтва (умовы тут заключаюцца без усякіх папер і алоўкаў, на словах, каротка-конкрэтныя, на-хаду, каб ня траціць лішне часу) акоп выкапаны да тэрміну, установленага статутам.

Так заключаліся і выконваліся ўмовы. Часта агульная ўмова разьбівалася на паасобныя паміж байцамі свайго аддзяленьня і тэмпы перамагалі непагоду, восенскую твань, перамагалі ўсе перашкоды напаснае прыроды.

Перад саўгасам круціцца вужакаю рака. Абодва берагі абсаджаны ліпамі, алешнікам, паабрасталі кустамі. Гэты бераг ракі, як павуціньнем, ад куста да куста, ад дрэва да дрэва, аплёўся іржава рыжым калючым дротам. З поўдню насоўваецца група „праціўніка“. На той выпадак, калі яму ўдасца ўзяць рубяжы першае абароннае лініі, яму прыдзецца сустрэцца з нялёгкай задачай: узяць другую, у іншым выпадку—досыць цяжкае адступленьне.

Падходы да рубяжоў другое абароннае лініі па перасечанай мясцовасьці страшэнна нязручныя—балота, гразь. Месцы для пераправы на рацэ ёсьць добрыя, але абаронны бок як мага пастараўся зрабіць іх няшкоднымі для сябе і небясьпечнымі для праціўніка. У гэтых мясьцінах дно ракі ўслана петлямі калючага дроту, на кожным мэтры тут чакае чалавека прыкрая нечаканасьць. Умелымі рукамі абаронцаў, якія выкарысталі амаль усе ваенныя хітрыкі пры організацыі ўмацаваньняў абароны, рака ператварылася ў адну суцэльную частку. Вось зусім нядаўна, яшчэ ўчора, цераз раку перакінуўшыся верхавінаю на другі бераг, ляжала вялізная алешына. Сягоньня яна ўжо пры самай зямлі сьпілена, ацярэблены комель удоўж кінуты на дно ракі, гальлё параскідвана па рацэ — пераправіцца тут на другі бераг ня лёгкая рэч. Тым больш, што абаронны бок чакаць ня будзе: максімы з узгоркаў сьвінцовым дажджом аблююць „праціўніка“, калі ён упрэцца лбом у калючы дрот.

Але ёсьць весткі, што ў распараджэньні „праціўніка“ магутныя тэхнічныя сродкі барацьбы—танкі, якія цяжка будзе спыніць, калі разгорнутым фронтам пойдуць яны ў наступленьне. Пасьпешна выбіраюцца позыцыі і на пераправах устанаўляюцца гарматы кінджальнага дзеяньня, якія простай наводкай будуць біць танкі і бранявікі „праціўніка“.

Далёка ўперадзе, гэтае далёка здаецца таму, што захаваны ад вока ўзгоркамі і кустамі, працягнулася паласа баявое аховы. Быць у абароне гэта ня значыць спакойна чакаць „праціўніка“, пакуль ён прыдзе, быць у абароне значыць ведаць усе моцныя і слабыя бакі яго, каб у патрэбны момант самім перайсьці ў наступленьне. Баявым аховам, якія выконваюць задачу варты сваіх часьцей, гэты прынцып вядомы.

Камандзір разьдзелу кіраўніцтва № батарэі назначаны ў ПНП у паласе баявое аховы. Задачай яго зьяўляецца—артылерыйскім агнём свае батарэі падтрымліваць баявую ахову. Камандзір разьдзелу безадкладна зьвязваецца з апошняю, але на гэтым ня спыняецца. Па ўласнай ініцыятыве ён робіць разьведку наперадзе і з боку ў сябе—самае лепшае самому разьведаць пра абстаноўку, каб мець поўнае ўяўленьне, дзе сярод чаго і перад кім ты знаходзішся. Ініцыятыўны камандзір сваёю разьведкаю даў вялізарную карысьць і баявой ахове і ўсёй сваёй часьці. Зусім неспадзявана з боку ў яго аказаўся полк, пра які ён нават нічога і не падазраваў, і пра які нічога ня ведала і баявая ахова. Ён зараз-жа зьвязваецца з гэтым палком і паведамляе ў штаб свае часьці ўсе даныя, набытыя ў выніку разьведкі. Але гэта яшчэ ня ўсё. Добра ўявіўшы сабе ўсю абстаноўку, ён робіць разьведку наперадзе, разьведку „праціўніка“. Апошняю ён устанаўляе перагрупаваньне і рух сіл праціўніка; дзякуючы гэтай разьведцы баявая ахова цэлы дзень магла трымацца супроць вялікае сілы наступаўшых. Камандзір разьдзелу двое сутак падтрымліваў узорную сувязь са сваёй батарэяй — і калі пад моцным націскам „праціўніка“ баявая ахова вымушана была адступіць—дакладнай корэктыроўкай агню батарэі даў поўную магчымасьць баявой ахове адыйсьці на новы рубеж. Умела праяўленая ініцыятыва камандзіра мела сваім вынікам тое, што баявая ахова амаль двое сутак трымала перад сабою наступаўшых, не даючы ім ходу.

На адным вучастку „праціўнік“ падтрыманы танкеткамі, прарваўся да паласы абароны. Але тут выведка яго напаролася на раку, хітра аплеценую дротам. Абаронцы асяродкавалі моцны агонь па гэтым вучастку і „праціўнік“ вымушаны быў адкаціцца назад—з пераўвялічаным данясеньнем, што перадавая паласа абароны ўмацавана па апошняму слову тэхнікі і абараняецца вялікімі сілам. Гэтае данясеньне затрымала наступленьне больш як на суткі, на такі час, які патрэбен быў, каб сьцягнуць усе свае тэхнічныя сродкі наступленьня і ў першую чаргу танкі.

Гэты момант кароткага замяшаньня „праціўніка“ абарона выкарыстала для яшчэ большага ўмацаваньня свае другое



**У штабе ішла гарачая работа**

лініі. На дапамогу часьці прышло 150 сялян добраахвотнікаў са сваім інструмантам.

Наступнага дня раніца паказвала на добрае надвор‘е. Сонца ўзыходзіла весела, бадзёра. Але ўжо праз якую гадзіну апошні раз усьміхнулася і палавыя ды шэрыя хмары папаўзьлі адна за аднэй і дзень зрабіўся падобны на ўсе папярэднія восенскія дні.

Ідуць „баі“. Ужо ў сталоўцы, адкрытай ЦРК у саўгасе ня відаць начскладу. Камандзіры і політработнікі пры сваіх часьцях, кіруюць байцамі ў „баі“. Цэлы дзень лётаюць самалёты.

Група самалётаў атрымала заданьне перашкодзіць прасоўваньню „праціўніка“, дэзорганізаваць тылы. Надвор‘е ня спрыяла выкананьню баявое задачы. Шэрыя хмары пазьвісалі нізка амаль над самай зямлёй і самалётам, каб выкрыць „праціўніка“ трэба нізка спусьціцца да зямлі. Гэта пагражае вялікай небясьпекай папасьці пад агонь з зямлі. Адзін з самалётаў групы ўмелым залётам нахопваецца на штаб. Пакуль „праціўнік“ пасьпявае ўявіць сабе ўсю небясьпеку, адна за аднэй „адрываюцца ад самалёта бомбы“ і ў момант пасяваюць разбурэньне, ахвяры, а самалёт узмывае ўгару і ляціць далей.

Авіяцыя паказала вялікую баявую вывучку. Самалёты абароннага боку трымалі ўвесь час у трывожным настроі наступаўшых.

Гадзіне а восьмай вечару пачынаюць бомкаць батальённыя гарматы.

Бум!—звонка ўрываецца раз-па-раз у наш рэдакцыйны пакой.

Чутны гукі мотору—гэта самалёт з баявым заданьнем накіроўваецца ў бок „праціўніка“. Гадзіне а дзесятай ад моцнага ўздрыгу паветра сатрасаюцца сьцены пакою. Стол, за якім мы працуем над чарговым нумарам газэты, падскаквае пад рукамі. У „бой“ уступіла цяжкая артылерыя.

— Бах-у-у-у!—вядуць перамовы цяжкія гарматы.

Нібы ў тон падзеям, якія разгортваюцца на перадавых пазыцыях, сярдзіта заходжваецца на двары вецер, шугае ў верхавіньні сталетніх таполяў і сваім шумам скрадвае гукі „вайны“. Вось ясныя камэты перарэзваюць кавалак цьмянага неба і зьнікаюць. Ракеты „праціўніка“ спрабуюць асьвятліць пазыцыі абароннага боку. Захліпаюцца ў брэху кулямёты. Лопаюць рэдкія стрэлы з вінтовак. Ноч, не ўважаючы на надвор‘е відная, ці мо‘ то вецер паразганяў хмары? А мо‘ гэта ад зарыва з перадавых пазыцый? Сярдзіта шуміць вецер.

Увесь гэты дзень прайшоў для нашай рэдакцыі на лініі абароны. Сам рэдактар са сваім намесьнікам аддалі цэлы дзень на азнаямленьне з пазыцыяй абароны № стралковага палка.

У штабе ішла гарачая работа. Кіраўнікі абароны не адыходзілі ад сваіх карт і амаль што хвіліны атрымоўвалі данясеньні з перадавых пазыцый. Баявыя аховы пад націскам моцнае сілы „праціўніка“ з „боем“ адыходзілі да свайго расплажэньня. У пасьпешным парадку скапчалася ўмацаваньне другое лініі абароны, з рубяжоў якое адкрываўся ўдалы абстрэл.

Рэдакцыі заставалася выдаць апошні нумар газэты. Але атрымліваюцца трывожныя весткі, што „праціўнік“ рыхтуе ўзмоцную атаку пры дзейным падтрыманьні танкаў і нам трэба быць гатовымі кожнае хвіліны выехаць.

Ноч мы спалі пад музыку гарматных і кулямётных стрэлаў. „Праціўнік“ упарта прасоўваўся ўсё ўперад і ўперад. Упрамежку з лёгкай артылерыяй і батальённымі гарматамі час-адчасу кашляла цяжкая артылерыя—міжвольна стваралася адчуваньне сапраўднае вайны. Наш сон быў перапынены нацямочку адрыўчатымі гукамі частых вінтовачных стрэлаў амаль над самым вухам. Трэ‘ было ўставаць, складваць свае манаткі.

Пакуль два работнікі політаддзелу № стралковага корпуса, якія друкавалі ў нашай друкарні адозву, пад абаронай белага пасрэдніцкага сьцяжка на нашым „фордзе“ пасьпешна пакідалі за сабою кілёмэтр за кілёмэтрам, мы ўдарным парадкам грузілі на паўтаратонку друкарню і рэдакцыю.

На двары была тая цішыня, якая ўласьціва сапраўднай вайне. Нідзе ня відаць людзей, чутны адны стрэлы, ды гудзеньне самалётаў. Крокаў за дзесяць ад нас у добра замаскаваным акопчыку на беразе ракі некалькі стралкоў час-ад-часу разражаюць свае вінтоўкі і ўважна ўзіраюцца праз густыя кусты, што робіцца на тым беразе. Мы спрабуем таксама ўгледзецца, але нічога ня бачым; тым часам стралкі мэтодычна пасылаюць стрэлы некуды ў кусты таго берагу, дзе відаць павінен быць праціўнік. Трохі пазьней мы даведаліся, што танкі наступаўшых атакавалі разам з стрэлкамі той вучастак, ад якога пазаўчора адкаціўся іхны напалоханы выведніцкі атрад. Першая лінія абароны ня вытрымала ўпартага націску танкаў і абаронцы мусілі адступіць на рубяжы другое абароннае лініі. Танкі пераправіліся цераз раку, скамячылі драцяныя загарады і сваім агнём падтрымалі наступаўшую пяхоту.

Байцы захапіўшыся баявымі дзеяньнямі сумесна з тэхнікай. Ігноруючы дрэннае надвор‘е, восенскую імгу, дождж і балота, байцы былі цалкам пад уплывам выкананьня баявых задач, засваеньня тэхнікі боя. Пад моцным уплывам шырока разгорнутае партыйнае, політычна-масавае работы на працягу другога этапу манэўраў у партыю ўступіла 150 чалавек, 100 у комсамол і шмат у колгасы.



**Ударным парадкам грузілі друкарню і рэдакцыю**

З хвіліны на хвіліну павінен зьвярнуцца наш „форд“, але яго няма яшчэ і мы крыху ўстрывожаны, — ці ня выкрыты дзе-небудзь, натрапіўшы на праціўніка белы пасрэдніцкі сьцяжок і ці ня ўзята разам з работнікамі політаддзелу і машына. Зусім побач з намі бомкае батальённая гармата, устаноўленая якраз насупроць маста.

Пагрузіўшы базу, ідзем у сталовую. Доўга прыходзіцца стукаць, пакуль, нарэшце, дзьверы адчыняюцца і мы ажыўляем няжывую цішыню прытульнае сталоўкі. Нам тлумачаць, што загадана не адчыняць сёньня. Праз вакно нам відаць, што агонь з боку абаронцаў узмацняецца і адчуваем, што настае рашучы момант.

Прыходзіць „Форд“, нам відаць праз вакно яго брудны, што быў некалі белым, пасрэдніцкі сьцяжок і мы выгружаемся в прытульнае сталоўкі.

Шофэр „Амо“ круціць ручку мотору датуль, пакуль той не паддаецца і пачынае трахкацець. Корпус машыны ўздрыгвае дробна, сударгава, мы пакідаем гасьцінны саўгас з яшчэ больш гасьціннай сталоўкай. Гукі „баёў“ застаюцца далёка пазадзі.

Нявылазная гразь на дарозе. Праўда, дарогі некалькі дзён таму назад ладзіліся: ударным парадкам дзесяткі і сотні колгасных і сялянскіх хурманак вазілі на грэблі пясок, сапёры ўмела выраўноўвалі, тахцілі грэблі, капалі на абапал равы; там, дзе гразьлі сялянскія коні, дзе хурманшчык надрываў свой пуп, ідуць лёгкія запырсканыя, але далікатныя, „Форды“, паўтаратонкі „Амо“, шэрыя бранявікі.

# ПА ЎДАРНАМУ ЗМАГАЕМСЯ ЗА АСЛАБАНЕНЬНЕ СССР АД ІМПОРТУ



Электрычныя гадзіньнікі, якія раней увозіліся з-за мяжы, а цяпер выробляюцца 2-ім дзярж. гадзіньнікавым заводам.



На здымку: тав. Ч. Папауэр — замежны спэцыяліст, інструктар цэху электрычных гадзіньнікаў, за праверкай электрычных гадзіньнікаў. Тав. Ч. Папауэр—член вэнгерскай компартыі з 1919 г. і член ВКП(б) з 1926 г., адзін з лепшых ударнікаў цэху, узнагароджаны пачэснай граматай.

Дарогі было-б не пазнаць, каб не дажджы, які за апошні тыдзень зрабілі з яе вадкую глейкую калатушу. Манэўручных часьцей гэта не палохае. Вось на грузавіках імчыць стралковая часьць, вось коньнікі—запырсканы крысы шынэляў... Матарызаваныя часьці... Усе сілы — на лінію абароны. Ад шпаркага манэўру залежыць выкананьне баявое задачы, залежыць посьпех.

А мы ўсё далей ды далей ад'яжджаем ад тэатру „вайны“ сустракаючы коньніцу, пяхоту, мотоцыклі, разьмінаючыся з бранявікамі і абозамі з сялянскага транспарту. У шэрых і рыжых сялянскіх сьвітках ішлі пры вазох таксама героі—манэўраў—колгасьнікі. Хурманаў аднаго раёну пасьля чатырох дзён работы ў абозе вайсковай часьці адпускалі дамоў. Усе як адзін яны адмовіліся і мобілізаваліся на ўвесь час манэўраў. Грошы, якія належалі ім за хурманкі яны прасілі аддаць у фонд абароны.

Да канца манэўраў працавалі ў парадку соцыялістычнага спаборніцтва на лепшую паклажу, захаваньне грузу і дысцыпліну маршу.

Пасьля цэлага шэрагу прадбачаных і непрадбачаных астановак мы спыніліся апошні раз у аднэй вёсцы, на дзень, каб выпусьціць апошні нумар газэты. Нумар газэты прысьвячаўся барацьбе за аўладаньне вучобай і тэхнікай аднаго баявога стралковага палка.

... Увечары, на другі дзень нас ветліва сустракалі агні Менску.

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ

# Ні кроку назад!

За трыбунаю стаіць ваенком.

Ён чырвоны, у рагавых акулярах, плячысты і здаецца нязвычайна аграмадным. Ад тысячавольтнага сьвятла ён прыжмурваецца, на твары відны маршчынкі і суровая незадаволенасьць. Узмах яго рук над трыбунаю як палёт вялікае птушкі.

Словы ў яго цьвёрдыя, як антрацыт, бліскучыя і таксама крылатыя. Ён гаворыць:

— СССР—ударная брыгада... Першая краіна ў сьвеце, якая ўзяла на сябе адказную задачу будаваць наступнае, імя якому—соцыялізм.

Што-ж мы зрабілі? Як мы пасьпелі? Я продэмонструю перад вамі лічбы нашых перамог. Яны павінны прайсьці перад вамі жывымі паказчыкамі таго размаху і энэргіі, якія ёсьць у працоўных...

І перад трыбунаю вырасталі лічбы, як жывыя сьведкі змагання і перамог. Яны апраналіся ў формы чыгуну, сталі, вугалю, чалавечай сьвядомасьці... Краіна пакрывалася пязьлічонымі сеткамі чыгунак, рыштаваньнямі новых гігантаў. Пульс краіны быў частым і дужым.

Ваенком націскаў кулакамі на трыбуну—і ў людзей якія слухалі яго зьявілася падазрэньне, што ваенком сумысьля хоча раздушыць гэтую мізэрную ў параўнаньні з ім трыбуну.

— Скажэце?—пытала ў канцы залі рэха.—Скажэце, дзе гэта, у якой краіне магчыма, апроч СССР?

На сцэне, дзе зьмяшчаўся прэзыдыум, на вялікім палатне была намалявана мастаком зямная куля. Чырвонымі фарбамі было адзначана будаўніцтва ўдарнай брыгады...

— Цяпер, таварышы,—ваенком выпіў глыток вады і ціха і спакойна загаварыў,—я продэмонструю другія лічбы... У краінах капіталу пяцьдзесят мільёнаў беспрацоўных!..

Шэсьцера сажэнных вокан былі расчынены напіта. Там за вокнамі, у вечаровым сутоньні, зацьвіталі кучаравыя бярозы і старыя ліпы. У вокны настойліва ўрываўся вясновы малады шум.

— Калі ўявім сабе зямную кулю, мы ўбачым, як паасобныя краіны—Гішпанія, Кітай—успыхваюць полымем пажараў рэволюцыі... Тады, баючыся каб не пагарэла „іхняе" дабро, зьяўляюцца пажарнікі, пачынаючы ад жандармэрыі да социял-фашыстых і старающа затушыць полымя рэволюцыі...

Ваенком залпам выпіў шклянку вады і працягваў:

— Але ўсё ярчэй гараць агні—і скора ня хопіць пажарнікаў, каб затушыць усеахопліваючае полымя!..

Цэлая бура вопляскаў пранеслася па залі.

Ваенком маўчаў, слухаючы буру, і расплаўляючыся ў трывозе, глуха сказаў:

— Пачакайце! Ціху! Я зараз пераходжу да другога пытаньня. Як-жа мы рыхтуемся абараняць краіну?

Цішыня!

— Увага. Я буду гаварыць аб прарыве ў нашым палку...

Бура, якая пранеслася адну хвіліну таму назад, разарвалася на часткі і ўсялілася трывогаю ў грудзёх.

У нас ня толькі прарыў, у нас цэлае прорва ў стралковай справе. На 6 практыкаваньню з вінтовак мы далі 25 проц. Ганьба! Палку пагражае небясьпека здаць ганаровы сьцяг, які ён трымаў на працягу трох год...

Заля неспакойна варочалася...

— Павінна быць барацьба за пяршынства, за сьцяг, за годнасьць званьня ўдарніка... Ні кроку назад, а ўперад—і вышэй! Вораг і трус той, хто ўздумае ня ісьці ўперад!..

На зьмену яму прышоў яшчэ больш грозны прокурор у вобразе командзіра палка з ордэнам Чырвонага сьцягу на грудзёх.

Ён, як добры гаспадар, ведаў кожную дробязь свайго палка. Ён прыводзіў прыклады героічнай гісторыі палка, ён зьбіваў з ног фактамі недысцыплінаванасьці, нежаданьня і няўменьня працаваць.

Ён сказаў:

— Нашы нізкія лічбы кантрольных стрэльб трапілі на даклад да наркомваенмора!..

— ?..

У жорсткай і глыбокай цішыні ўспыхвалі і гасьлі іскры надзей, перамогі...

— Мы ўсю зіму прагаварылі. Мы шмат гаварылі для шуму, для плякатнасьці. Грош цана такім нашым размовам! Мы цешыліся ранейшымі дасягненьнямі. Мы дарэмна елі хлеб. Мы цяжкім каменем віселі на шыі савецкай улады. Зімовыя вучобы прайшлі міма нас. Мы гулялі ў спаборніцтва і ўдарніцтва. Мы толькі заключылі дагаворы, а ня выконвалі іх... Што вы на гэта скажаце, таварышы? Я скончыў... Я чакаю, байцы, ад вас адказу!

Цяжкае і строгае абвінавачваньне лажыцца на галавы байцоў, загарэлых у вучобе, але якія не давялі да канца ясьпыніліся на паўдарозе.

І было ў залі ціха.

І ад цішыні веяла жудасьцю.

Командзір палка ў другі раз спытаў:

— Ну, хто-ж будзе гаварыць?

— Дайце мне слова!—пачуўся голас з сярэдзіны залі.

— Валі, брат!—весела сказаў компалка.

Ён быў татарын—нізкарослы і каржакаваты, як моцны корч. Стаяў на сцэне каля трыбуны, шырока расставіўшы ногі, быццам баяўся, каб ня ўпасьці.

— Нам ганьба вісіць на шыю сказаль командзір. Худа, сказаль командзір полка. Страляем—худа. Глядзім мішэнь, дзе кулі? Кулі—на малако. Стаім пасту—варона на штыху сыпіць. Часавы дзе—сьпіць. Худа!

Ён хацеў многа сказаць. Ён ад шматслоўя захліпаўся і лавіў рукамі паветра.

— Назад ня пойдзем! Худога ня будзе, комісар. Наступаць будзем! Страляць будзем трапна мішэнь. Добра будзе! Ударнікі, паўдарнаму будзем! Вот я скончаль... Валяй гавары за мною...

І ў адказ—суровыя і гарачыя—сталі выступаць ударнікі ад імя сваіх падразьдзяленьняў:

— Ня гледзячы на ўсё, мы прарыў ліквідуем!

— Контрольныя лічбы па стральбе выканаем!

— Мы ўдарнікі і застанемся імі.

— Бальшавікам ня страшны ніякія перашкоды.

— Гэта былі часовыя памылкі. Мы ўсё-ж такі свайго пяршынства не здамо.

— Будзем весьці няшчадную барацьбу з недысцыплінаванасьцю, з варожымі настроямі, з нежаданьнем вучыцца і працаваць.

— Мы запоўняем камандваньне і бюро партколектыву, што прарыў ліквідуем і з гонарам выйдзем пераможцамі.

Заля была неспакойнай. Заля бушавала. Шумным прыбоем з берагоў выплёсквалася трывога, расла надзея і ўпэўненасьць...

Командзір палка стаяў на краю сцэны і ласкава ўсьміхаўся. Бліскаў ордэн Чырвонага сьцягу і на ім дзіўна канцэнтравалася праменістая энэргія многавольтавага сьвятла.

З пасьвятлеўшым тварам ён гаварыў:

— Я гляджу на вас і моцна ўпэўнены, што мы ўсе недахопы выправім—і больш ніколі з гэтага моманту ня будзем азірацца на іх, як на вялікае няшчасьце. Правільна?

— Правільна!—адгукнулася заля і павесялела.

Шумнымі авацыямі віталі лепшых ударнікаў, якія ўзыходзілі на сцэну. Ім раздавалі падручнікі. Ім крычалі баявое „ура".

Лепшаму снайпэру ў палку командваньне выдала маленькі пераходны сьцяжок.

— Гэты сьцяжок,—сказаў ваенком,—будзе знаходзіцца ў лепшай роце, у лепшым разьдзеле, у самага лепшага стралка. Ён будзе прымацаваны да штыха, каб кожны ведаў лепшага ўдарніка і стралка. На кожнае стрэльбішча яго будуць насіць...

З маленькім сьцяжком у руках стаяў чырвонаармеец—сгрэшні загарэлы, твар у вяснушках і саромліва ўсьміхаўся. Ён трымаў сьцяг перад сабою,—ён быў лепшы ўдарнік, лепшы стралок.

Ваенком, усьміхаючыся праз рагавыя акуляры сказаў:

— Глядзі, брат, нікому не аддавай!

— Служу працоўнаму народу!—занадта моцна выгукнуў снайпэр, сам засароміўся і закашляў у кулак.

— Памятайце,—сказаў на разьвітаньне ваенком,—ні кроку назад, а ўперад—і вышэй!

У вокны настойліва ўрываўся малады шум, з лёгкім ветрам урываўся пах ліпаў, задор будзіў упэўненасьць, бура бушавала.

Зьмітро Чапурны

# ЛІЦЕЙНЫ ЦЭХ

Халодны месяц
толькі ўсходзіў,
з нізін далёкіх
выплываў—
у гэты момант
да заводу
прышла брыгада
№ 2.
Руку падняўшы,
брыгадзір:
— Таварышы!—
гукнуў да гурту,—
Каб сьледам горшых
не хадзіць—
нам павярнуць патрэбна крута.
— І мусім
добра памятаць:
каб наш завод
ня меў застою—
ліцейны цэх
павінен даць
у дзень
продукцыі за сто.
— Утому прэч!
На бой за сталь!
Прарыў—бяда!
Прагулы—сорам!
... Вусаты майстра
з намі стаў,
яму даўно
мінула сорак.
Усё-ж бяз болю
і бяз мук
шырокую
згінае сьпіну:
— Я так-жа
спраўнасьцю вазьму,
калі гады
забралі сілу.
Фармоўшчыкі
забылі сон—
бадзёры рух
і крок напорны,
нясуць
ачышчаны пясок
і дбайна так
рыхтуюць формы.
Нібы густая кроў,
з пячэй
чыгун,
растоплены агнямі,
у чан
вясёлкаю цячэ,
як вадаспад
у прорву-яму.
Гарачынёю
цэх кішыць,
ад сьпёкі млосна,
як у лазьні.
Тут робяць часткі для машын,
што пойдуць
на прастор колгасны,

———

Канец работы!
Шэсьць гадзін...
Апошнюю
наліўшы форму,
стаіць
высокі брыгадзір
з уцехай сэрца
нявымоўнай.
Энтузіязм
і наш уздым
не выбухае,
каб загінуць:
уздым
палае заўсягды—
у кожны момант
і часіну.

Пераклаў
з украінскае
Пятро Глебка.

Сяргей Астрэйка

# ПРОШВЫ ПЭЎНАСЬЦІ

Таму даюць пакункі кпінаў,
Хто бяз турбот, улегцы едзе.
Трэ' сілу й гарт аддаць краіне,
Каб ня губляць дарэмна недзе.

Работы нам прыпала многа.
— Хто ацінацца будзе ласым?!.
Здушы на сьмерць вужаку змогі—
адпачываць няма нам часу!

Пагарды дужай, зыркай варты
Усякі, хто сцураўся мэты.
Наш пэўны крок імкне упарта,
Агнём жаданьняў мы сагрэты.

Урваць, скрышыць наровіць творы
Варожы сквіл, зайдросны гоман.
Што раз гучней, званчэй гаворыць
Дыхтоўны пошчак творчай сстромы.

Прывабна хваляў пругкасьць кроіць
(Ня нам плысьці вадою плыткай!)
На ручнікох агністых строеў
Дасэні кроз патрэбна выткаць.

Разгону рук няма упыну.
Прасторных дум растуць узьлёты.
Аддайма ўсё на гмах краіны:—
Адпачываць мы будзем потым!



Сакратарыят Белфасп

Зьлева направа сядзяць: Л. Бэндэ, Андрэй Александровіч, А. Сянькевіч, Якуб Колас, Міхась Чарот.

Стаяць: Іл. Гурскі, В. Сташэўскі, Ліпнёвы, Платон Галавач.

**ЯНКА СКРЫГАН**

# Агранатава шыхта

Фото Гурвіча



Гомсельмаш

Да сябе ў канторку Агранат зайшоў, каб яшчэ раз праверыць учарашнюю шыхту. Можа ёй няправільна ўчора даў пісульку-рэцэпт. Можа сам дзе памыліўся.

Нагнуўшыся над сталом Агранат старанна ўзіраецца ў свой-жа почарк. Літары крывыя, няроўныя, як параскіданыя з перапалоху. Можа ад таго, што яму цяжка было выводзіць іх, ён даў памылку. Але Агранат добра разьбірае свае крывулькі, і бачыць—шыхта складзена так, як ён складаў заўсёды, другая рэч—можа яна заўсёды складаецца ня добра, ці можа гэты раз папаліся іншыя чушкі. На памяць без лябораторыі, без аналізу хіба льга рэгуляваць шыхту. Практыка, навык—дарагая рэч, але-ж імі не праверыш прысланыя чушкі, каб ведаць які процант да яе трэба дадаць коксу, лому ці фэраселіцыя.

Агранатавы пальцы выпускаюць паперыну, пасьля цяжка падаюць на яе і прыціскаюць да стала. А далей пальцы цягнуцца па стале цягнучы за сабой і паперу, і ўжо, калі паперына калыхаючыся падала на падлогу—Агранатавы плечы хаваліся за дзьвярыма канторкі.

Загнуўшы каля ваграпак, перасгупаючы цераз апокі і асьцярожна разьмінаючыся з ваграпікам, каб пе перашкаджаць іхняй рабоце—Агранат перасякае фармовачную. Пахне распаранаю ліцьцём зямлёю. У чорнай зямлі шавеляцца людзі,—фармуюць апокі. Апокі становяцца шарамі на доле з невялікімі праходамі для заліўнікаў. Удоўж залі вузкім праходам пабліскваюць з зямлі невялічкія рэйкі для падачы дэталяй у абсечнае. Агранат ідзе па рэйках, і ў руках у яго пабітыя кавалкі чыгуна.

На рэйках пападаецца Бабічаў і, ашчэрыўшы белыя зубы, сустракае Аграната ўсьмешкаю.

— Пераганяю брат, Агранат. Дзевяноста восем працантаў годнага, а зараз і ў сто стукну.

Агранат заняты нейкаю думкаю і, мэханічна кіўнуўшы галавою Бабічаву, хоча разьмінуцца, але той стаіць на праходзе і паказваючы рукою на сагнутага ў апоках чалавека, яшчэ больш ашчэрвае белыя зубы.

— А ён хоча цягацца са мною. Ды дзе табе мець такую брыгаду,—кажа ён ужо да сагнутага над апокаю чалавекам,—адна мая Лапянкова чаго варта. А мо' яшчэ перагнаць думаеш, а. Пераплётчык,—цьвеліць ён чалавека і добрадушна сьмяецца, папраўляючы казырок шапкі.

Пераплётчык памагае вучню ў фармоўцы. Ён паказвае як паволі трэба накладаць верхнюю апоку, каб не здрыганулася зямля і, нагнуўшыся, устаўляючы галаву між рук, крычыць.

— Пацягаемся. А перагнаць, вядома, думаю.

— Давай. Ты-ж от адстаеш...

Пераплётчык налажыў апоку, асьцярожна зачыкаваў вушкі і ўстаў выпроставаючы назад занямелую сьпіну.

— А што ты скажаш тады, калі з сваёй брыгадаю цябе папярэджу.

— Тады гаварыцьме ўвесь колектыў, а брыгадзе—прэмію дамо,—перабівае Агранат.

Ну, давай,—пераплётчык раскарачыстаю хадою падыходзіць да мужчын,—ну, давай—я даю слова—ня толькі наганю, а пераганю цябе. Ты рызыкуеш што ўзяў дзевяноста восем, а ўмова-ж на сто з гакам. Дык як табе кажу, што я і гак вазьму.

— Давай.

— Давай.

— Давай лапу—і два брыгадзіры моцна размахнуўшыся сьціснулі тоўстыя далоні. Прапала недзе Агранатава задумёнасьць і рупесак. Губы расьцягнуліся ўсьмешкай, а рукі паднялі кавалкі чыгуна.

— А гэта. А пра брак вы і не гаварыце. Вось што дакапайце. Зрабеце, каб у вас было чыста з бракам.

— Ясна. На што была-б гаворка.

— Ну, смалеце,—і Агранат, не патушыўшы яшчэ ўсьмешкі бярэцца за Бабічаву крысу, каб разьмінуцца ў праходзе.

— Агранат.

Ад ваграпак, тымі-ж самымі рэйкамі ідзе Дрыц. Яшчэ здалёк ён падымае рукі даючы знаць, каб Агранат пачакаў. Агранат назад выпускае Бабічаву крысу і па гэтай паднятай Дрыцавай руцэ пазнае, што хоча сказаць начальнік мэханічнага цэху.

— Ты пра ліцьцё—пытаецца ён, калі Дрыц ужо падыходзіць блізка.

— Пра ліцьцё. Ты нешта пачынаеш псавацца, Агранат: Даеш цьвёрды чыгун. От глядзі,—ён трымае ў руцэ сьвідро і яго паказвае мужчынам,—ломяцца, не бяруць. Дай мякчэй. Цьвёрды добра на тонкія дэталі, там гэта добра, але-ж на дыскі гэта нельга. А паглядзеў-бы ты, як стогне калаўскі варштат. Проста мука. Не абтачыць. Разцы ня хочуць браць ні дыскаў, ні шківаў. Дай мякчэй, Агранат. Ты ведаеш, што гэтым мы трацім добрых трыццаць працантаў продукцыйнасьці. А колькі браку на бандажы на прыгонцы нажоў. Гахнеш молатам, а чыгун у дрызгу пасыпаўся.

— Я ведаю,—перабівае Агранат,—думаеш я ня ведаю. І я табе зраблю гэта. Зраблю, што ня ганіць, а хваліць будзеш, але мне трэба набіць руку, выверыць. От бач,—ён паказвае кавалкі чыгуна,—іду праверыць цьвёрдасьць і тады буду бачыць на колькі мякчэй будзе даць шыхту. Можа зразу і ня ўдасца, бо сам ведаеш няма аналізаў, але я дамагуся, што чыгун будзе на яць. Раз табе кажа Агранат, то ён зробіць. А вось і хлопцы заеліся на спаборніцтве,—ён паказвае на брыгадзіраў,—усе мы хочам, каб ліцейны вам нос падцёр і—зробім, я табе кажу.

У Дрыца шавеліцца даўно нябрытая шэрсьць барады—ён хоча яшчэ нешта сказаць, але Агранат ужо крычыць Дрыцу.

— Хадзем.

Фармовачнае шавеліцца панагінатымі над акопамі людзьмі. У залі пахне распаранаю ліцьцём зямлёю. Брыгадзіры разыходзяцца да брыгад, а пару плеч—нізкія карчукаватыя і, шырокія і грузныя—хаваюцца ўжо ў абсечным.

Агранат—стары бальшавік, загартованы комуніст і работнік. Ён можа ад адчаю жартаваць, расказваючы і байкі і здарэньні на адпачынку ў сваім колектыве ён-жа можа быць напорыстым і жорсткім начальнікам ліцейнага цэху. Але ён заўсёды блізкі да колектыву—і гэтую жорсткасьць і жартаўлівасьць і напорыстасьць начальніка—любіць рабочы колектыў ліцейнікаў.

Ён прышоў на Гомсельмаш з „Пролетара“ мобілізованы на прарыў. І тады, першы раз прыглядзеўшыся да цэху, абмацаўшы яго хваробы—перщы раз падпісаў па цэху, ставячы вялізнае „А“ з хвосьцікам, бо цяжка пісаць поўнае прозьвішча нядаўна ліквідаваўшы няпісьменнасьць.

І тады-ж пайшлі да Аграната групы рабочых, што прывыклі працаваць пасьвістваючы, са скаргамі, што моў так нельга, што разваліцца ўвесь цэх, што рабочыя паўцякаюць, бо ім

трэба даць перш пад'есьці і хоць-бы асьмак махоркі, а тады патрабаваць дысцыпліны і сумленнасьці. Агранат моўчкі выслухаў. Пасьля простаю няскладнаю гаворкаю паказваў становішча цэху. Трэба вырваць цэх з прарыву. Трэба змагацца, грызьціся зубамі, а хто ня хоча—ідзі. Ідзі, каб не перашкаджаць другім, каб не мяняць заводу на махорку.

Ныцікі прашлі, а з барацьбітамі Агранат разгарнуў спаборніцтва, штурмануў ударнымі брыгадамі, да кожнага рабочага давёў заданьне, і кожны чалавек стаў відзён у рабоце, і стала відна работа кожнага чалавека. Улік. На бок абязьлічку і дакладная распрацоўка заданьня на кожнага з пэрсональнай адказнасьцю.

— Ты-ж сам ведаеш, што тут было, — кажа Агранат ужо на дварэ да Дрыца.—І я табе кажу—ня ный. Думаеш мне добра, калі бывае няўдача. І лёгка думаеш наўгад рабіць. Голымі-ж рукамі не палезеш у вагранку, каб праверыць. Трэба ляборы—тады ты сабе ўзяў кавалак ліцьця, зрабіў аналіз і ведаеш, як табе рэгуляваць. Але я табе кажу што і без ляборы дамагуся. Раз Агранат, то ён зробіць, а калі вышла няўдача—ня ный, сам ведаю, што нядобра. Вось глядзі,—ён сунімае Дрыца за руку і паказвае,—бач колькі на двары браку. Гэта мне ў спадчыну асталося, праўда, і майго ёсьць крыху, але—даю табе слова—і гэта зраблю на добрае. Апалю і будзе, як маліна.

Дрыц згаджаецца, але скубе шэрсьць круглае барады і яму хочацца давесьці, што сёньня ў яго будзе прарыў праз дрэнны чыгун, што ў яго ломяцца разцы, варштаты аж храпуць, ледзь гладаючы цьвёрдыя дэталі, і што гэта аддасца на ўсім заводзе, палажыўшы на яго, на Дрыца віну, за недавыпрацоўку.

У Аграната—у ліцейным—неўдалася шыхта. Вышаў цьвярдзей чыгун. І вот ужо заводзкі організм тарганууўся, мускул тэмпаў нормы напяўся — завод пачуў перабой. У кавальскім лопаюцца дыскі ад бандажу. У хэмічным храпуць варштаты, зьніжаючы цэнтрабежную сілу. Ломяцца, псуюцца разцы, сьвідры. Ад парушанае нормы перабой чуюць людзі. Людзі ўжо тузаюцца парушаныю сыстэмаю і трывога электрычным токам праходзіць па нэрвах усяго заводзкага організму. Ток даходзіць да зборачнага, і зборка пачынае торгацца змаганьнем за графік дзённага заданьня і графік пакажа любы малюсенькі перабой аграмаднага заводзкага пульсу.

Зрабіўшы пробу на цьвёрдасьць, каб хоць прыблізна ведаць на колькі сёньня трэба будзе збавіць гэтае цьвёрдасьці, Агранат сыходзіць з другога паверху заводакіраўніцтва. Ён ужо вышаў у невялікі калідорчык да вуліцы, але адумаўся і павярнуў назад, накіроўваючыся да дзьвярэй парткалектыву.

Генкінаў габінэт—невялікі пакойчык з двума сталамі, з чатырма крэсламі і з дыяграмамі партыйнага росту і партыйнай


Фармаўшчык ліцейнага цэху ўдарнік Нікіцін першы ўвёў на заводзе сустрэчна-зьменны штодзенны плян


Пагрузка машын

работы. Генкін сядзіць за папяровым сталом абапёршыся на локці і аберуч трымаючы нейкія паперы. У габінэце дымка ад курэньня. Пара чалавек стаяць каля сьцяны і спрачаюцца. На стол да Генкіна налягло некалькі чалавек і таксама спрачаюцца, даводзячы сакратару, што ў ячэйцы работа ёсьць, але нападаюцца паасобныя комуністы, якія ігноруюць усялякую дысцыпліну і на вытворчасьці займаюцца рвацтвам. Генкін слухае. Ён ведае завод, ведае цэхі і ведае гэтага ліпавага комуніста з мэханічнага, і яшчэ ведае—ячэйка мэханічнага цэху сама вельмі інэртная, а непаваротлівасьць на такім адказным вучастку, таксама фактычна—прарыў.

— Ну дык вось,—перабівае ён, даўно ўжо сфармаваўшы думку,—зробім таварыскі суд. Там відзен будзе і ён, відна будзе і ячэйка, відна будзе і ўся ваша работа. Чаго-ж хаваць балячкі. Іх трэба паказваць, усяму заводу і паказваць, што рвалі і прагульнікі ня маюць нічога агульнага з бальшавікамі.

Агранат недзе знайшоў пакалечанае крэсла, і, калі адышлі мужчыны, бліжэй прысунуўся да стала падцягваючы за сабою і крэсла.

— І я брат з такою музыкаю, гаворыць Агранат узьлягаючы на стол і адсоўваючы на патыліцу шапку.

— І ты пад суд—сьмяецца Генкін, кладучы ў шуфляду паперы. Яго невялікая фігура варочаецца на крэсьле грузна і, кладучы ўжо на стол локаць, рука глыбока западае ў густую кучаравую чупрыну, засланяючы сабой яшчэ ня кончаную добрадушную ўсьмешку.

— Не, я яшчэ пачакаю з гэтым,—Агранат зноў папраўляе шапку.—У мяне ня ўсё ў парадку—от што. Я думаю трэба нам перагледзець наш колектыўны дагавар па ліцейным. Бо там—дрэнь. У мяне самая цяжкая работа—заліўнікі і выбарнікі. Ходзяць па жалезе, па гарачых літках і ў іх у дрызгляціць абутак. Паводле дагавору ім выпадае на год па пары. Мала. На такой рабоце пара не дадзержыць. Вунь ужо багата ў каго паасталаваліся атопкі, а ад гэтага недалёка і да калецтва. Гэта ненормальна. З босымі нагамі на работу не паставіш,

У Генкіна даўно застыла ў чупрыне рука і па тым, што ён упёрся ў чарніліцу і прыкусвае ніжнюю губу відаць, што ён нешта думае.

— Я чуў, што ты нават зьнімеш з работы —гаворыць Генкін, не адрываючыся ад чарніліцы.

— Бо інačай не магу. Дапусьціць, каб чалавек скалечыўся у расплаўленым чыгуне, не магу. Я-ж і кажу, што ў мяне ня ўсё ў парадку. Адсюль і цякучасьць. І трэба яшчэ, каб начная зьмена таксама была забясьпечана, хоць-бы мінімальна самым неабходным. Выбарнікі выйдуць пасьля такое работы распараныя і ім нават няма чым прагнаць смагі, ні то каб падмацавацца. А гэта ўсё аддаецца на цэсе, на рабочай сіле. Я не кажу ўжо што ў мяне яшчэ багата ўсялякай работы. Але ў першую...

Генкін адрываецца ад чарніліцы і варочае пакладзеныя Агранатам на стале кавалкі чыгуна.

— Дык вось—давай паставім на заводакіраўніцтве. Паправіць памылку, відома, трэба. А пра начную зьмену—я скажу Трахімаву—проста хай дадуць адміністрацыйны загад. Правільна. Трэба.

Увашоўшы невялікі калматы чалавек з абсечнага ў канторку і паклаў перад Агранатам паперку. Агранат узяў паперку, а чалавек стаў каля сьцяны трымаючы ў руках зубіла і малаток. На валасох у яго трымаўся пыл і, мабыць ад таго, што чалавек быў выцер твар потнаю рукою—на шчацэ асталася шырокая пляма мокрае сажы.

— Дык чаго ты хочаш—пытаецца Агранат у чалавека палажыўшы паперы. На паперы таксама відзен быў сьлед пальцаў.

— Або зволіць, або перавесьці на іншую работу.

— Чаму?

— Ды сам-жа бачыш—не магу. Заядаюць. Гэтыя два чалавекі мне не даюць быту. Я вызваўся падвысіць норму, зьнізіць сабекошт, дык яны мяне завуць рвалём, дапікаюць, што я прагну выціснуць лішні рубель. Добра каб гэта было раз жартам, а то мне штодня ад іх няма ходу, і я не магу так працаваць. Рад—кажа, чалавек—што на зьдзельшчыну перайшлі, ды от здохне рублі вы аняючы. А я не магу, бо я не рублі ганю, а працаваць абы як не ўмею... От што.

— І табе ня брыдка пісаць такія заявы—кажа згадзіўшы Агранат гледзячы на рабочага і, адкідаючы шапку на патыліцу, усьміхаючыся.

— Бо я кажу, што не магу.

— Дурань ты,—проста, па свойму зноў агарошвае Агранат калматага чалавека.—А я кажу—хіба такую заяву трэба пісаць. Гэта так мы будам змагацца з наплюйствам. Цебе цкуюць, дык ты з работы. То з работы трэба гнаць тых, хто цкуе, хто зрывае работу. А. Гэта ты так змагаешся. Эх, галава садовая... Ну, дык от,—Агранат ссоўвае шапку на лоб і гладзіць патыліцу, аддаючы назад заяву,—з работы я цябе ня зьніму і нікуды не пераваду, а склічам сход, пагаворым і такіх работнікаў, як гэтыя твае апякуны, пакажам усяму цэху. Праўда. А такое змаганьне як тваё, гэта, брат, глупства. Так за завод ня б'юцца. Ну, дык от—ідзі працуй і ніякіх гваздоў.

Чалавек яшчэ хоча нешта сказаць, але махае рукою і забірае заяву. У канторку заходзяць новыя рабочыя і, каб слухаць іх Агранат зноў адкідае на патыліцу шапку.

— Вось да чаго даводзіць цякучасьць,—думае Агранат пра калматага чалавека з абсечанага, астаўшыся адзін.—Абсечная—гэта ў мяне, бадай, самы адсталы вучастак. Работа такая, што не дае кваліфікацыі. Чалавек прапробіць два, самае вялікае, тры месяцы і ідзе шукаць другое работы. Людзі скрозь мяняюцца, цякуць. Ня згрупуеш здаровага ядра, заводзіцца гніль—ні спаборніцтва, ні ўдарніцтва з імі як сьлед не наладзіш. А ў выніку—грызьня, балота. Вось над чым яшчэ давядзіцца ламаць галаву.

Думкі перарывае вагарнік, увашоўшы каб узяць пісульку на шыхту.

— Шыхту—перапытвае Агранат.—А от зараз дам,—ён шукае чыстага лістка паперы. Але пасьля ён сунімаецца, на крышку задумваецца і, зачыняючы высунутую ў стале шуфляду, гаворыць да рабочага.

— Хадзем.

Глыбока затыкаючы рукі ў кішэні, ён шыхту ідзе рабіць сам.

---

Зьмітро Віталін

# І КОЖНЫ З НАС БУДЗЕ ЛАЗУТЧЫК І СНАЙПЭР

„Итак начинается песьня о ветре,
О ветре, обутом в солдатские гетры"...

І дымнай крывёю пятрэе зямля,
І песьня лунае:
— Грэнада мая!..

І з мутнае хвалі плыве—выплывае
Славуты тапельнік—таварыш Чапаяў.

І ў сьнежны буран, у сібірскую замяць
Ідуць партызаны,
Ідуць—партызаняць...

І от—у паводцы крывавых клінкоў
Бярэцца апошні акоп—Перакоп...

* * *

Апошні... апошні?.. А ну пачакай...
І цісьне за горла чыясьці рука...

Ах, гэта наплывы сухотнае воблы,
Касьцістага голаду вогненны вобліў.
І жоўты, як выдма, тыфозны пэрон,
І ён—малажавай краіны гэрой!—

Якога завуць і цяпрака—Мы!
Мы вывелі край з непраходнае цьмы!
Мы стукнулі ёмка ўсім воўкалакам
Па іх крыважэрных задзёрлівых лапах!

І потым,—паставіўшы каля граніц
Такіх, што ніколі не падалі ніц,

Такіх, што пяюць:
„Да брытанскіх марэй
Чырвоная армія ўсіх мацней!"

Узьнялі мы шахты, заводы, аблогі,
Узьнялі й паставілі моцна на ногі...

І от—у вялікім нястрымным паходзе,
Мы песьцім другое ўжо пяцігодзьдзе...

* * *

Але-ж рыхтавалі замах на Літвінава...
— Таварыш, трымай генэральную лінію!..

І зноўку базыкуе Ліга ў Жэнэве...
— Таварыш, наперад магутнай залевай!..

І плян інтэрвэнцыі ўносіць Тардзьё...
— Таварыш, ступай маладзей і цьвярдзей!..

Тым часам крывёй захлынуўся Кітай...
— Таварыш, курок на узводзе трымай!..

І крызісу здані снуюць над Эўропай...
— Таварыш, а ў нас узьнімаюцца кроквы!..

І мы даганяем—дагонім Амэрыку!
— Таварыш, скажы беспрацоўнаму:
— Вэры гут!*)

Бо нашая радасьць—
Радасьць і ў іх,
І шквал рэвалюцый
Яшчэ не заціх.

Ён бурна праходзіць
Крывавым парадам.
Глядзі—у Кітаі
Савецкая ўлада!

І—дзе ты, о дзе ты
Сьвятлоўскі хахол?
Ў грэнадзе сажаюць
Манахаў на кол!..

І пішa адозвы
Валошын з астрогу.
І ходзяць грамадаўцы
У бор крутарогі...

* * *

І хай паспрабуюць напасьці на нас,
На сонца ашчэрыўшы гострыя іклы,—
Сусьветнаю гліцай павее вясна,
Вясна маладых, зуравых і вялікіх!

У бурах, у бойках мы схопім яе,
Да сэрца прыцісьнем, да сэрца наблізім...
І потым напішам дзесяткі паэм
Пра сьветлую эру соцыялізму.

І потым (я крыху романтык, сябры,
І хочацца зоры далёкія вызнаць)
Мы сонцу насунем юнгштурмаўскі брыль
І выгалім месяц ад хцівай сівізны.

І кожная зорка трымацьме дазор,
Дзяўчаты, напэўна, захопяць Вэнэру,
Мы—рынемся далей да зор і да зор,
Калумбы Камуны з імпэтам і верай!..

І хай паспрабуюць напасьці на нас,
На сонца ашчэрыўшы гострыя іклы,
Сусьветнаю гліцай павее вясна,
Вясна маладых, зуравых і вялікіх!

Мы сьцісьнем вінтоўкі, мы дыхнем вальней
(І кожны з нас будзе лазутчык і снайпэр)
Мы голасна крыкнем:
— Амба вайне!—
І ў обдым братоў зарубежных патрапім.

Люты, 32 г.

---

*) Вэры гут—вельмі добра (па ангельску).

Людчын Марка

НАРЫС

# Фабрыка малака

Пачынала сьвітаць.

Ружовыя праменьні сьвятла ваявалі з коўдраю начной цемнаты, сінія сьвітальныя цені блукалі ў будынках і ў закутках двара.

Ад лямпы сталоўкі праз вокны густа сеяліся ва двор бялява-ружовыя праменьні. Па скрыпучым сьнезе адзін за адным бадзёра сьпяшаліся рабочыя на сьнеданьне. Праз цьмяна-афарбаваныя дзьверы кухні нясся апэтытны пах, які вабіў нова-ўвайшоўшага чалавека, як мага хутчэй сесьці за стол. Частка рабочых і жанчын, якія прышлі раней, ужо пасьнедалі і весела жартуючы, чакалі званка на работу.

— Наш Хведар сумуе, мусіць ня тым бокам устаў,—жартавала Марыля.

— Ды ці-ж ён толькі сёньня? Усе гэтыя дні ён нешта вялы,—дадала Наста.

— Жаніцца надумаў,—перабіў Лаўрэн.—Танька нешта вала водзіць, лепшага шукае.

— От, яшчэ брыдота! Усіх хлопцаў перабрала і не знайшла ніводнага,—гыркнула старая Марцініха.—Ударніка і то адпіхвае, вось табе і на. Высока нос задрала.

Хвёдар паспрабаваў агрызацца, але дзе тут справіцца з такім кагалам? Зачырванеў, а ўсе вакол зарагаталі.

Раптам пяшчотны звон пакрыў сьмех і ўсе весела пайшлі даглядаць жывёлу.

* * *

Скотны двор племгасу. Прасторныя чыстыя, сьветлыя памяшканьні. Усе тры аборы змаходзяцца адна ад аднэй не на вялікай адлегласьці.

Сёлета пабудавана абора на 180 галоў рагатай жывёлы. Абыйшлася ў 30 тысяч рублей. Гэта цёплае, вельмі добра абсталяванае памяшканьне. Столь для цеплаты абшыта дошкамі, а пасярэдзіне аборы вялікі калідор для загатоўкі корму жывёле.

У чатыры рады стаяць каровы. Каля кожнага раду стаяць кармушкі і пакінут невялікі праход для раздачы жывёле корму. Гной штодня выбіраецца і вывозіцца ў поле. Чыстата вельмі ўзорная.

Падлога пабудавана з драўляных, старчовых брускоў, якія лепш для цеплаты і сухасьці памяшканьня.

Дзьве другія аборы—цагляныя, зроблены некалькі год назад. Усе яны цёплыя. Нават пракладзены рэйкі, па якіх ходзіць ваганэтка для вывазкі гною.

Па бакох стойлаў пабудаваны канаўкі для сьцёку гнаёвай жыжкі. У дацкіх кармушках зроблены двайчатыя ланцугі, якія не даюць каровам у часе яды раскідаць корм і перашкаджаць карміцца сваім суседкам.

Гады два назад у племгасе было ўсяго 80 чырвоных беларускіх кароў, а цяпер, дзякуючы гадоўлі маладняка і куплі на базары чыстакроўных беларускіх кароў, іх налічваецца 300.



Каровы гэтай пароды малочныя і прыстасаваныя да ўмоў Беларусі, больш чым іншыя пароды, якія ёсьць у нас.

Раздача корму робіцца жывёлаводам у намечаныя гадзіны.

* * *

Маладая даярка Насьця, падыходзіць да чырвонай „Розы“, ласкава гладзіць яе рукой па шыі, а потым садзіцца каля каровы на маленькім услончыку. Мые вымя, выцірае яго насуха і бярэцца за дойку. У вядро бягуць белыя струменькі малака.

З вядра даяркі малако працэжваецца ў бідон. Малако ад кожнай каровы мераецца літрам. Налева, каля ўваходных дзьвярэй сядзіць за вялікім сталом бронь-вучань жывёлавода, які адзначае ў ведамасьці клічку каровы і колькасьць удою.

— „Розка“—пяць,—кажа Насьця.

— „Крошка“—пяць з паловай,—абазвалася Марыля.

Ні адна кропля малака не прападае дарма.

— Малако—наш прыбытак,—сьмяючыся гаворыць даярка.— Чым больш будзем мець малака, тым больш даходу ў нашай гаспадарцы. Вось і гэта малако пойдзе ў горад рабочым, якія працуюць па фабрыках і заводах, выпрацоўваючы нам тавары, машыны для сельскай гаспадаркі.

І сапраўды большая частка малака здаецца ў гор. Менск. Другая частка ідзе ў сталоўку племгасу і асобным рабочым, якія атрымліваюць штодзённа па ўстаноўленай норме.

* * *

Цяпер ужо племгас мае шмат маладых шустрых цялят, якія стаяць у аборы з надпісам: „Радзільня і цялятнік“. Тут таксама стаяць чырвоныя беларускія быкі. Увесь маладняк, за выключэньнем хворых, будзе пакінут на племя, якое павінна будзе распаўсюджвацца ня толькі ў межах племгасу, але і па ўсёй Беларусі.

„Жорж“—гэта клічка маладога быка, якому два гады. Заўсёды яго ўбачыш на дварэ. Рабочыя выпускаюць яго на двор, каб зьвесьці барокацца з яго бацькам, які грузны і страшэнны.

Тут-жа з колцам у носе стаіць вялізарны дацкі бык, які год назад прывезен з-за мяжы.

Усе баяцца яго. Толькі старшы скотнік дзядзька Вайцахоўскі сьмела ходзіць каля яго, даглядаючы.

— Хутка адвядзем яго ў былы племгас імя Калініна,—цяпер наша аддзяленьне—кажа Вайцахоўскі. Там ёсьць дацкія каровы, а ў нас толькі чыстакроўныя чырвона-беларускія. Для нас досыць вось гэтых чатырох чырвона-беларускіх быкоў.

* * *

Увесь догляд жывёлы і кармовыя рацыёны (нормы) складаюцца пад кіраўніцтвам вопытнага жывёлавода тав. Леановіча, які за дабраякаснае разьвядзеньне жывёлы атрымаў на ўсебеларускай выстаўцы дыплём першай ступені і месца на курорт.

Ён ужо сёмы год працуе ў гэтым племгасе. Чатыры разы племгас атрымаў дыплём першай ступені.

— Добры догляд жывёлы спрыяе павышэньню яе продукцыйнасьці, а таксама паляпшае пароду маладняка,—кажа тав. Леановіч.—Вось звычайная сялянская кароўка, якая тры гады назад куплена. Давала спачатку тры літры малака, а як пабыла ў нас на добрым доглядзе, пачала даваць аж да дваццаці літраў малака ў дзень.

Сёлета ў племгасе тугавата з концэнтраванымі кармамі. Уся бяда ў тым, што Белсельтрэст абяцаў даць макухі і вотрубей, але ўсё гэта засталося абяцанкай. Караньплодаў хапае ўволю, яны замяняюць моцныя кармы. Сена таксама хапае і даецца яно штодня па нормах.

Даглядаюць жывёлу лепшыя ўдарнікі-рабочыя, якія любяць жывёлу і цікавяцца ёю.

Так выконваецца пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб разьвядзеньні жывёлагадоўлі ў соцыялістычным сэктары—саўгасах і колгасах.

Племгас „Комінтэрн“.
Менскі раён.

## САНАТОРЫ САСНОЎКА


Падрыхтоўка да прыему хворы

Непадалёку ад Віцебску, калісьці ўладарыў памешчык Магучы. Вызваліўшыся з панскага ярма, працоўныя пачалі будаваць сваё новае соцыялістычнае жыцьцё і там дзе панаваў панскі бізун і панская ўлада, цяпер працоўныя Беларусі маюць, так званы, беларускі Крым, беларускую Швэйцарыю.

Дзень у санаторыі пачынаецца а 7 гадзіне раніцы. Да сьнеданьня хворым робяцца ўколы мыш'яку, а ў 9 гадзіне пачынаецца сьнеданьне. У 10 гадзіне абход урача. Вельмі добра тое, што хворыя прымацоўваюцца на ўвесь час лячэньня да аднаго ўрача. У 11 гадзіне званок заклікае піць кэфір, ці малако. Ў час дню—абед. Пасьля абеду мёртвы час, пасьля


Сьветалячэньне „Солюкс"

мёртвага часу мераецца тэмпэратура, потым званок на чай, а ў 8 гадзіне зноў на вячэру. У 11 гадзіне ўвечары хворыя кладуцца спаць.

Пры санаторыі добра абстаўлены зубаўрачэбны габінэт, габінэт вуха і носа. Таксама добра абстаўлены габінэты рэнтгенаўскі, хірургічны, вадалячэбніца, лябораторыя, дзе робяцца аналізы ўсякага роду. Ёсьць габінэт электралячэньня па нэрвовых хваробах.

Хворыя прыбываюць на шэсьць тыдняў—у санаторы пасылаецца 90 проц. рабочых. Прапускная здольнасьць санаторыя складае ў год у сярэднім 550 чал. (летам 300 чал. і ў зімовую пару 250). Пры санаторыі маецца саўгас, які снабжае ўсімі неабходнымі продуктамі.


Сталоўка санаторыі

Зіна Кагановіч

## ПЕСЬНЯ І ТОРФ

Чорнай дрыгвай ільсьніцца балота
І вада
зеляней дрэў...
— „Вось вам прырода...
Вось экзотыка!" —
Скажа якісь поэт.
Я ўзьнімаю песьню другую,
Іншым шляхам іду да балота.
Што мне экзотыка,
калі край патрабуе
Мільёны кубамэтраў торфу.
На прасторах балота рэж канавы,
Досыць сівай гуманнасьці!
Сёньня хачу больш за ўсё ўслявіць
Тых,
хто ня ўмее назад ісьці.
Непатрэбна больш песен лёгкіх,
Што ўзьвіваюцца,
як дымы.
Трэ' каб словы маладосьцю
Узьнімаліся на дыбы.
Песьню новую
і высокую,
Песьню новую ў кругазор;
Гэта песьня ў балотах
Хай здабудзе
чорны торф.

Леанід Лукашэнка

## ЧЫГУНАЧНЫ МОСТ

Туды,
Дзе хвалі
На бераг шугалі,
Дзе месяц баяўся
У глыб тую глянуць, —
Аднойчы прышоў
Будаўнік—інжынэр,
Прынёс
Будаўнічыя пляны.
Хадзіў цэлы дзень
Вымераў берагі,
Занатоўваў штосьці
Ў сінюю кніжку,
І там дзе рака
Утварала загіб,
На пляне
Памеціў ён рыскай.
А потым,
(Дарэмна
Нятраціцца час)
Над стэпам
Усьпеніўшы радасьць,
Каб працу
Па ўдарнаму
Тут распачаць,
Прыйшла
Грабароў брыгада.
І тут,
Куды часта
Са стэпу вятры,
Прылятаці
Раку шаршавіць,
Ля задумна-стаячых
Пахілых ракіт,
Узрываць
Берагі пачалі.
І дружна рыдлёвак
Задзынкала сталь,
(Для працы
І дня нехапала...)
Вось тут, напрамкі
Будзе йсьці магістраль,
З Данбасу
К магніту
Урала...
Ў ваду апусьцілі
Вялізны „кесон",
Загналі
Лябёдкамі палі.
І цэмэнт лажылі
На мокры пясок, —
— Муры над вадой
Узрасталі.
Расьлі кожны дзень
Рыштаваньні
Маста,
Ўставалі
З вады ледарэзы...
І мост
Над вадою
Як волат ўзрастаў,
— Упарта
Раку перарэзваў...
І грукатам сталі
(За працай маста)
Маўклівую стэп
Запалоняць...
Тут вугаль памчыць
Не адзін састаў,
Ударным
Сквазным эшалёнам.



2-гі акт. Ударнікі за працай

# ЯЎРЭЙСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ

Калі ў студыйным пэрыодзе тэатр адарваўся ад рабочага асяродзьдзя, не ўключыўся ў барацьбу за заданьні аднаўленчага пэрыоду, то ў 1926 г. пасьля свайго прыбыцьця ў Менск ён зрабіў рашучы паварот да жывой цеснай сувязі і супольнай працы з пролетарскай грамадзкасьцю. Гэта сувязь ажыцьцяўляецца праз політмастацкую раду, праз шырокія конфэрэнцыі рабочага глядача, праз выступленьні на прадпрыемствах, праз прымацаваньне культбрыгад да фабрык і заводаў для практычнай масавай работы, праз шэфства прадпрыемстваў над тэатрам (Віцебск—„Сьцяг індустрыялізацыі"), праз організацыю агітбрыгад, якія мастацкі прапрацоўваюць мясцовы матэрыял і выступаюць на прадпрыемствах. Ва ўсёй гэтай рабоце яшчэ далёка ня ўсё зроблена, што неабходна і магчыма зрабіць, але ўжо ёсьць значныя дасягненьні.

Справа з падрыхтоўкай кадраў за апошні час таксама значна пасунулася наперад. Тэатр організаваў студыю ў складзе дваццаці таварышоў рабочай моладзі—амаль усе комсамольцы. Праўда пэдагогічная праца ў студыі яшчэ не стаіць на належнай вышыні.

Адным з вялізарных дасягненьняў тэатру зьяўляецца ўтварэньне рэжысэрскай групы, з якой т. Айзэнбэрг працуе ў яўрэйскім вандроўным тэатры, т. Галоўчынер кіруе рабочым тэатрам, тав. Олендэр—яўрэйскім трамам і апрача мастацкага кіраўніка тэатру т. Рафальскага два таварышы працуюць у самім тэатры.

Дзякуючы недастатковай марксыцка-ленінскай узброенасьці з адпаго боку, дзякуючы суб'ектыўна-ідэалістычнай школе, якую ён атрымаў у Маскве з другога—тэатр зрабіў шэраг політычных памылак (часта моцныя ўплывы нацыяналістычных, формалістычных, эстэтычных тэндэнцый). Але тэатр хутка пайшоў па шляху самакрытыкі, па шляху выпраўленьня памылак („Глухі", „Джым Купэркоп"), былі зьняты з рэпэртуару „Барацьба машын", „Цьвішэн допрэс", „На ланцугу пакуты", „Сьвята ў Касрылаўцы". Наш бальшавіцкі абавязак адзначыць, што тэатр яшчэ недастаткова займаўся крытычнай праверкай сваіх політычна-мастацкіх памылак, як студыйнага пэрыоду, так і пэрыоду тэатральнага існаваньня.

У далейшай рабоце тэатр павінен разгарнуць работу па аўладаньні марксыцка-ленінскім сьветапоглядам, па выпрацоўцы пролетарска-мастацкага творчага мэтоду, разгарнуць шырокую творчую дыскусію. Павінен канчаткова зьнішчыць

Яўрэйскі дзяржаўны тэатр Беларусі, узьнікненьне і рост якога—законамерны вынік адзіна правільнай ленінскай нацыянальнай політыкі адыграў значную ролю ў стварэньні яўрэйскай пролетарскай драматургіі. П'есы пролетарскіх яўрэйскіх пісьменьнікаў—„Ботвін"—Вевёркін, „Гірш Лекерт"—Кушнерова, і інш. узьнiклі ў цеснай сувязі з работай тэатру. Зараз у цесным контакце з тэатрам працуе шэраг яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў — т. т. Харык, Годзінэр, Кушнероў, Бітэнзон і інш.

Тэатр таксама прыцягвае да сваёй працы і пісьменьнікаў спадарожнікаў—заказваліся п'есы т. Кульбак, т. Дабрушыну („На 62 вучастку"). Ставіліся перакладныя п'есы рускіх пролетарскіх пісьменьнікаў—„Стрэл" Безыменскага, „Поэма аб сякеры" Н. Пагодзіна, украінскага пролетпісьменьніка Корнейчука „Штурм".

Крытычна скарыстоўвалася спадчына клясыкаў западна-эўропэйскай літаратуры. Ставіліся: „Шэйлок" Шэксьпіра, Мольераўскі „Скапэн", „Авечая крыніца"—Лопэ-дэ-Вэгі.

У апошнія часы тэатр мобілізаваў унутраныя сілы на папаўненьне рэпэртуару—п'еса і інсцэніроўка работнікаў тэатру т. т. Аронеса і Рафальскага. Тэатр прарабіў значную работу па набліжэньні свайго рэпэртуару да практыкі соцыялістычнага будаўніцтва.



ПОЭМА АБ СЯКЕРЫ—Н. Пагодзіна. Фотэ М. Рывіна



Зьлева. 1-ы акт. Сьцяпан сталевар. Арт. Арончык.
III-ці акт. Прабуджэньне Сьцяпана пасьля ўдарнай выплаўкі сталі, якая не ржавее

# ТЭАТР БССР

рэшткі нацыяналістычных, формалістычных і эстэтычных тэндэнцый, рэшткі інтуітывізму, суб'ектыўнага ідэалізму, вульгарнага матэрыялізму, як у працы рэжысуры, так і ў працы актораў, кампазітараў, мастакоў і г. д.

Тэатр павінен прыцягнуць да сваёй непасрэднай творчай працы пролетарскую грамадзкасьць, для чаго патрэбна ўвесьці ў сыстэму чытаньне п'ес, паказ макетаў і г. д. шырокім рабочым сходам, павінна быць узмоцнена работа культ і агітбрыгад на прадпрыемствах.

Тэатр павінен наладзіць шчыльную сувязь з пролетарскімі пісьменьніцкімі організацыямі ў першую чаргу з БелАПП'ам забясьпечыўшы праз сумесную працу рэпэртуар высокай політычнай і мастацкай якасьці. На сёняшні дзень гэта сувязь слабая.

Галоўная ўстаноўка тэатру павінна быць на п'есы, якія адлюстроўваюць соцыялістычнае будаўніцтва, уключаючы гісторыю фабрык і заводаў. Тэатр павінен мастацкі паказаць бальшавікаленінца, ударніка—героя пяцігодкі, жыцьцё камсамолу (у рабоце, вучобе, быту), Чырвонай арміі, уключаючы гісторыю грамадзянскай вайны.

Неабходна дабіцца пералому ў вырашэньні пытаньня проблемы кадраў, забясьпечыць належную выхаваўчую працу ў студыі, дабіцца кваліфікаваных кіраўнікоў тэхнічнымі цэхамі, узяць курс на павялічэньне колькасьці рабочай моладзі.

Тэатр павінен правесьці ў жыцьцё 6 указаньняў т. Сталіна, ліквідуючы ў першую чаргу ўраўнілаўку ў зарплаце і абязьлічку ў працы як тэхнічных, так і мастацкіх цэхоў. Трэба больш рашуча [illegible]наваць сваю працу і ўвесьці суровы гаспадарчы разьлік. Тормазам у працы тэатру зьяўляецца нездавальняючыя ўмовы працы. Адсутнічаюць належна прыстасаваныя рабочыя памяшканьні. У далейшым трэба дабіцца ўрэгуляваньня ўмоў працы і паляпшэньня бытавых умоў працаўнікоў тэатру.

Парколектыву трэба ліквідаваць адставаньне ў марксыцка - ленінскай вучобе, разьвіць самакрытыку ва ўсіх галінах працы тэатру, зьнішчыць гнілы лібэралізм у пытаньнях творчай дыскусіі. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на распрацоўку пытаньняў нацыянальнай формы і пролетарскага зьместу, па-бальшавіцкі змагаючыся з усякімі спробамі працягнуць нацыяналістычныя тэндэнцыі.

Толькі на шляхох выкананьня ўсіх гэтых задач тэатр зможа звузіць ножніцы паміж тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва і адлюстраваньнем яго ў мастацтве.

Толькі ў гэтым выпадку тэатр зможа ліквідаваць адставаньне ад задач рэконструкцыйнага пэрыоду.

**ЗА ДЫЯЛЕКТЫКА МАТЭРЫЯЛІСТЫЧНЫ ТВОРЧЫ МЭТОД У ТЭАТРАЛЬНАЙ СПРАВЕ**

**ЗА БАЛЬШАВІЦКАЕ МАСТАЦТВА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПА ФОРМЕ І ПРОЛЕТАРСКАЕ ПА ЗЬМЕСЬЦЕ**

ПАСТАНОЎКА „ШТУРМ“. ПАСТАНОЎШЧЫК Б. НОРД. МАСТАК Д. КРЭЙН.



Макет сцэны шахты.



2-гі акт сцэны ўнутры шахт.



# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ БРЫГАДА пісьменьнікаў у БССР

Выбраная на Ўсесаюзнай конфэрэнцыі аўтарскіх таварыстваў інтэрнацыянальная дэлегацыя пісьменьнікаў у складзе т.т. Амаглобелі, Бухнікашвілі, Вішні, Досьвітнага, Дняпроўскага, Жгенці і Корнейчука прыяжджала на Беларусь для азнаямленьня з дасягненьнямі беларускага пролетарыяту ў соцыялістычным будаўнінтве, для абмену вопытам культурна-нацыянальнага будаўніцтва савецкіх рэспублік і ўстанаўленьня пастаяннай сувязі паміж пролетарскімі атрадамі мастацтваў народаў СССР.

Дэлегацыя пісьменьнікаў азнаёмілася з вялізарнымі дасягненьнямі беларускага пролетарыяту на фронце гаспадарчага будаўніцтва, а таксама ў мастацтве і літаратуры.

Дэлегацыю і прадстаўнікоў беларускай АПП т.т. Лынькова, Александровіча, Барашку і Бэндэ прыняў старшыня Саўнаркому БССР тав. Галадзед. У гутарцы старшыня Саўнаркому паведаміў, што некаторыя прадпрыемствы Беларусі ўжо выканалі пяцігодку, што па ўсіх вучастках пяцігодка будзе выканана ў чатыры гады і што па некаторых галінах яна будзе перавыканана.

Азнаёміўшы дэлегацыю з гаспадарчым становішчам дарэвалюцыйнай Беларусі і тымі дасягненьнямі, якіх беларускі пролетарыят дабіўся за апошнія гады тав. Галадзед расказаў аб посьпехах культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. У заключэньне ён прасіў дэлегацыю, каб прадстаўнікі пролетарскіх і савецкіх пісьменьнікаў братніх рэспублік аддавалі больш увагі пытаньням соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі, каб сувязь паміж пролетарскімі і савецкімі пісьменьнікамі братніх рэспублік і Савецкай Беларусі была замацована і зрабілася пастаяннай.

Дэлегацыя прыняла гэты соцыялістычны рахунак.

Дэлегацыя прысутнічала на прэм'еры 2 Беларускага тэатру (п'еса пролетарскага пісьменьніка Александровіча „Напор"), выступіла на конфэрэнцыі настаўнікаў у Гомелі з дакладам аб нацыянальна-культурным будаўніцтве і прыняла ўдзел у радзе літаратурных выступленьняў сумесна з БелАПП.



Пісьменьнікі Янка Купала і Астап Вішня



Група пісьменьнікаў

# СОЦСПАБОРНІЦТВА БДТІ УЧ-ЗТ

5-га студзеня 1932 г. у Доме Пісьменьнікаў, у прысутнасьці прадстаўнікоў МенАПП'у і тэатральнай грамадзкасьці Менску адбылося ўрачыстае падпісаньне ўмовы на соцыялістычнае спаборніцтва паміж Першым Беларускім Дзяржаўным Тэатрам і Украінскім Чырвоназаводзкім тэатрам.

Знаёмства тэатраў адбылося яшчэ на алімпіадзе мастацтва ў Маскве, улетку 1930 г. У восень 1930 г. у Віцебску быў падпісан першы дагавор на соцспаборніцтва.

Гастролі Першага Белдзяржтэатру па Савецкай Украіне (Харкаў, Кіяў) яшчэ мацней зьвязалі гэтыя абодва тэатры адзіным імкненьнем і адзінай барацьбою за пралетарскі тэатр.

Рэжысэр БДТІ тав. Рахленка адчыніўшы ўрачыстае пасяджэньне, зачытаў вынікі першага дагавору. Па шэрагу адказных пунктаў пераможцам вышаў Украінскі Чырвоназаводзкі тэатр.

Тав. Рахленка ў сваёй прамове асабліва адзначыў неабходнасьць разгортваньня ў абодвых тэатрах шырокай бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі ўва ўсіх галінах творчай працы, неабходнасьць жорсткага перагляду прыёмаў і мэтадаў працы, неабходнасьць разгортваньня вучобы па аўладаньні марксысцка-ленінскай тэорыі, неабходнасьць весьці барацьбу за партыйнасьць нашага мастацтва і за вядучую ролю пралетарскай драматургіі.

Т.т. Ліманоўскі і Кобец у сваіх прывітальных прамовах адзначылі выключную палітычную важнасьць падпісаньня соцумовы паміж БДТІ і Харкаўскім Чырвоназаводзкім тэатрам.

Рэжысэр Чырвоназаводзкага тэатру т. Канеўскі адказваючы на ўсе прывітаньні, даў усебаковую ацэнку праробленай працы абодвых тэатраў. Прамоўца спыніўся на пытаньнях нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі, на аснове якой раней прыгнечаныя народы атрымалі магчымасьць будаваць сваю культуру соцыялістычную па зьместу і нацыянальную па форме.

Тав. Канеўскі асабліва адзначыў неабходнасьць рашучай барацьбы за падвышэньне якасьці нашай працы, за ўтварэньне мастацкіх каштоўнасьцяў адпавядаючых нашай вялікай эпосе.

Вечар закончыўся канцэртам з удзелам аркестру БДТІ і ўдарных брыгад рабочага тэатру ЦСПСБ.



Зьлева направа: рэжысэр Л. Рахленка, актор БДТІ С. Бірыла, рэжысэр Чырвоназаводзкага Тэатру Л. Канеўскі, рэжысэр П. Данілаў, пролетарскі драматург Р. Кобец

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**Б. МІКУЛІЧ. „Чорная вірня“ (новэлі). ДВБ, 1931 г., стар. 128.**

З усіх цяжкасьцяй, што стаяць перад спадарожнікам у яго набліжэньні да пралетарыяту няма такіх, якія пры шчырым жаданьні не маглі-б ім быць пасьпяхова пераможанымі. Для „Чорнай вірні“ іменна і характэрна шуканьне творчых шляхоў, шуканьне шляхоў для набліжэньня да пролетарыяту.

Творчы этап адлюстраваны ў зборніку зьяўляецца для пісьменьніка пройдзеным, але гэта не пазбаўляе нас права даць конкрэтную характарыстыку ўвайшоўшым у зборнік творам.

Новэля „Адышло, адкацілася“... зьяўляецца выражэньнем дробна-буржуазнага гуманізму. Мара ў баку ад змаганьня—яна проста выратоўвае раненых (белых). Не паказана наколькі аформілася яе сьвядомасьць пасьля пераходу да чырвоных. Можа яна і там ставіць сябе ў баку ад клясавага змаганьня і незалежна ад сваіх клясавых сымпатый проста выратоўвае раненых? Сам аўтар у гэтай новэлі выступае як пасыўны сузіральнік, не раскрывае сваіх адносін да падзей, якія адбываюцца.

Яшчэ большым зрывам зьяўляецца „Песьня пра сяброўства“. У новелі зусім адсутнічаюць социяльныя мотывы. Гэтым тлумачыцца той факт, што не ўказана, якім катаржнікам зьяўляецца Міхась — крымінальным, ці політычным. Такім-жа зрывам трэба лічыць „Акалічнасьць“ і „Волю сыновую“. Ніякага адштурхоўваньня ад бытавізму тут не атрымалася.

Узыходзячая лінія намячаецца ў новэлі „Рояль“. Рояль стаяў у фэльдшэра, а потым папаў у рабочы клюб. Праўда, дыстанцыя тут не настолькі вялікая, каб на гэтым будаваць новэлю. Больш высокаю ступеньню ў сэнсе клясавай накіраванасьці зьяўляецца „Тота“.

Тут соцыяльныя мотывы больш акрэсьлены. Твор пабудаваны на контрасьце—у дзяцінстве Тоты афіцэр хацеў забіць яе бацьку, былі гвалты, рабункі, а цяпер яна працуе на заводзе. Гэта контрастнасьць у сваёй аснове мае мэханістычны матэрыялізм.

Першыя спробы перайсьці на сучасную тэматыку ў аўтара таксама ня зусім удалыя. У гэтым сэнсе недахопам „Праўды верасьнёвых дзён“ зьяўляецца тое, што старая сялянка *выпадкова* трапіла ў колгас, што яе ўваход у колгас не паказан у сувязі з пераробкай яе псыхоідэолёгіі. У „Думах пра помсту“ ў аўтара ўсплываюць надзвычайна дзіўныя для савецкага пісьменьніка панмонголісцкія мотывы. Дадатным момантам зьяўляецца паказ нарастаньня рэволюцыі ў колёніях.

У новэлі „Рыхтуйцеся“ асабліва моцна адчуваецца інтэлігеншчына. Заклік да клясавай пільнасьці, да ўзмоцненай падрыхтоўкі абароны СССР пераходзіць у закрык. Мільёны мэтафізычна супроцьстаўляцца адзінкам. Такое разуменьне адзінства адзінкі і масы, што адзінка павінна растварыцца ў масе ва ўсякім разе нельга назваць пролетарскім.

У новэлі „Шаснаццаты“ Мікуліч ужо пераходзіць да рабочай тэматыкі. Тут у значнай ступені адкідваецца формалізм, стылізацыя, стыль робіцца больш роўным, без налёту тэхніцызму. Твор каштоўны паказам нараджэньня новых адносін да працы. У апавяданьні „Чорная вірня“ паказваецца колектывізацыя. Гэты твор зьяўляецца найбольш акрэсьленым у сэнсе пераходу Мікуліча з спадарожнікаў у саюзьнікі. Але і тут сказаўся інтэлігенцкі падыход. Залішне моцны акцэнт зроблены на перажываньнях Брагіна.

На ўсім зборніку ў сэнсе творчага мэтоду ляжыць адзнака павярхоўнасьці, эмпірызму. Аўтар мала аддае ўвагі ідэйнаму асэнсаваньню ўспрынятага матэрыялу рэчаіснасьці. Адгэтуль і эскізнасьць яго новэль, іх сюжэтная хаотычнасьць. У гэтым дачыненьні проста зьдзіўляе чаму аўтар зьмешчаныя ў зборніку творы лічыць новэлямі.

Бессумненна, што пролетарскі чытач прачытаўшы гэты зборнік у першую чаргу, будзе чакаць ад Мікуліча падвышэньня ідэйнага зьместу і клясавай накіраванасьці, партыйнасьці яго твораў.




**ЦІМ. ЗАРЭЧНЫ. „Маладосьць“ (Новэлі і апавяданьні). ДВБ, стар. 135.**

Ідэяй першага апавяданьня зборніка „Маладосьць“ зьяўляецца працоўнае перавыхаваньне чалавека, якое ў конкрэтным выяўленьні даецца, як шуканьне маладосьці жыцьця. Галоўны пэрсонаж апавяданьня агроном Лебедзь, якога разьядае інтэлігенцкая рэфлэксія, ідзе ў комуну і там набывае неабходную мэтавую ўстаноўку на жыцьцё. Ён знаходзіць здавальненьне ў працы па будаўніцтву комуны. Зарэчны ня зусім справіўся з узятай тэмай, ня вырашыў яе з пункту гледжаньня пролетарскага сьветапогляду.

Выйсьце ня ў тым, каб заваліць Лебедзя фізычнай працай, ня ў тым, што „Лебедзь ня будзе мець ніводнае вольнае хвіліны“—пры такім становішчы прыдзе пераўтамленьне і стары Лебедзь зноў пачне змагацца з маладым. Захапіўшыся працай у комуне Лебедзь пачаў адчуваць сябе вінцікам вялізарнай машыны, але трэба было яшчэ і паказаць, як гэтае адчуваньне было ім асэнсавана. Інакш чытач няўпэўнены, што Лебедзь зноў ня возьмецца за вырашэньне „кардынальных пытаньняў жыцьця“.

„Зямля ў вятрох“ сыгналізуе аб небясьпецы разьвіцьця ідэалістычных тэндэнцый у творчасьці Зарэчнага. Мэтод паказу актывіста-комсамольца як анархічнага бунтара адзінока ідучага праз ноч, сымболічную буру, пад акомпанімэнт злаваснага сабачага яху зьяўляецца недапушчальным.

Характарна, што іменна ў гэтым апавяданьні ў Зарэчнага зьяўляюцца мотывы сугучныя „Голаму зьверу“ Зарэцкага. Напрыклад, „зірнуць уніз—у роспач і рызыку, заглядзецца ў вочы сьмерці, падражніць яе, як дзяўчаты дражняць хлапцоў і ашукаць яе“. Таксама нельга паказваць і клясавае змаганьне на гуце амаль выключна праз асабістыя адносіны шкодніка—інжынэра Сакалоўскага да Насты.

У нарысе „Дукора“ паказваецца клясавае змаганьне ў час колектывізацыі—падпальваньне кулакамі двароў колгасьнікаў, былых удзельнікаў партызанскага руху. Аўтар аддае значную ўвагу дасягненьням Дукоры за часы рэволюцыі. Недахопам нарысу зьяўляецца фотографічнасьць, эмпірызм.

У апавяданьні „Сустрэчы“ у паасобных эпізодах—сустрэчах паказваецца рост сьвядомасьці Анісіма-млынара. У апошні раз ён зрабіў уражаньне чалавека „які ведае сваю дарогу“. Зарэчны з гэтага робіць вывад, што абставіны фармуюць чалавека і чалавек стварае абставіны. Апавяданьне не дае выстарчальнага поваду для такіх высноў, бо тое, як Анісім зьмяняе абставіны амаль не паказана.

У „Соснах“ разгорнута тэма новай бацькаўшчыны. Алесь пакінуў родныя сосны—паехаў вучыцца. Вяртаецца праз колькі часу—усё як-бы чужое хаця знадворнага боку і не зьмянілася. З аднаго боку „пахнуць сосны *чужынаю* (падкрэсьлена мной) роднай зямлі“ і з другога боку сосны—крок у заўтрашняе, але Алесь не бярэцца будаваць на вёсцы гэта заўтрашняе, а зноў едзе ў горад (новая бацькаўшчына). У апавяданьні не паказаны соцыяльныя процэсы, якія адбываюцца на вёсцы.

Гэта памылка значна выпраўляецца ў апавяданьні „Хата ў чыстым полі“. Аўтар прыяжджае ў вёску. Усе пайшлі ў колгас. Дзед памёр. Засталася яго хата жывым успамінам аб тым, што была тут вёска. Але і ўспаміну скора ня будзе—дзедава хата пойдзе на дровы. Новае жыцьцё ўступіла ў свае правы.

У апавяданьнях „Вынаходца“, „Думы“, „Трывога“ паказваецца жыцьцё гуты. Вынаходца Зарэчнага па сваёй псыхолёгіі нагадвае Мароза з „Гуты“ Р. Кобэца. У „Думах“ падаецца змаганьне Натальлі былой партызанкі з інжынэрам-шкоднікам Лесавецкім. Каштоўнасьць апавяданьня ў тым, што ў ім паказваецца жанчына на адказнай рабоце. У „Трывозе“ малюецца барацьба за выкананьне промфінпляну, за зьніжэньне браку, працоўную дысцыпліну, за павышэньне прадукцыйнасьці і якасьці працы.

Зарэчны аўтар таленавіты і зборнік пры ўсіх сваіх недахопах апраўдвае назву. Бадзёрасьць, якою ён прасякнуты, мобілізуе чытача на змаганьне за новае жыцьцё, за „маладосьць“, за актыўныя адносіны да жыцьця, за шчыры ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве.

**Я. Ш.**



# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ




Выгляд адчаго з корпусаў клінічнага гарадка Белдзяржунівэрсытэту



ЭРК заводу „Комунар“



Устаноўка катлоў

Аршанскі мяса-камбінат



Апрацоўка туш



Закатка кансэрвных банак